скай уладай пачаліся перагаворы, на якіх палякі заявілі, што ня будуць чапаць ніводнай беларускай арганізацыі, а хочуць ісьці разам, як „вольны з вольным і роўны з роўным“. Толькі-ж далёка ня ўсе паверылі гэтым салодкім словам, цану якіх усе пазналі шмат пазьней...

Пачалі патроху арганізовывацца. Заснавалася „Беларуская Грамада Моладзі“ (старшынёю быў Маркевіч). Адначасна пачалася работа па склікаиьню зьезду Віленшчыны і Горадзеншчыны ў м. Вільні. Усе арганізацыі Горадзеншчыны цесна аб'ядналіся паміж сабою, спадзяючыся, што будуць мець магчымасьць свободна павясьці шырокую грамадзкую працу. Але ўжо ў чэрвені 1919 г. палякамі быў расфармаваны беларускі полк. Пачаліся вобыскі і арышты беларускіх дзеячоў і працаўнікоў. Арыштаваны былі: Мядзёлка, Грыб, Салошык, Якімовіч, Казячы, Антонаў, Боеў Якаўлюк і шмат іншых. Мядзёлка, Грыб Салошык, Якімовіч і інш. былі звольнены, а ўсе іншыя вывезены ў лагер у Кракаве. Хто раней ці пазьней быў звольнены з Кракава і вярнуўся ў Горадзеншчыну, той праз нейкі час усё роўна прымушаны быў выехаць заграніцу.

Наймацнейшай і адзінай культурна-асьветнай беларускай арганізацыяй была „Беларуская Грамада Моладзі“. Грамада мела сваю бібліатэку, драматычны аддзел, музыкальна-вакальны і інш. Грамада ладзіла вечарынкі, спэктаклі і вось так жыла, маючы балей як 400 сяброў.

У студзені 1920 г. з дазволу Горадзенскага Старосты быў скліканы агульны сход горадзенскіх беларусаў на Замковай вул. дом 5, дзе быў выбраны Беларускі Нацыянальны Камітэт Горадзеншчыны. Выбранымі былі: Баран, Якімовіч, Федарук, д-р Бялецкі, Якаўлюк, Дзекуць-Малей і Антонаў. Усе арганізацыі аб'ядналіся пад сьцягам Беларускага Нацыянальнага Камітэту. Камітэт займаўся культурна-асьветнай працай. Пры камітэце быў юрыдычны аддзел, дабрачынны, школьны і інш. Народ зварачаўся за рознымі інфармацыямі, падавалі скаргі на надужыцьці пры адкрыцьці беларускіх школ, бо школьны інспэктар не даваў дазволу. Аб усіх заявах камітэт рабіў захады перад уладай.

Сьвядомасьць расла сярод беларускага насяленьня. Усюды, як у мястэчках, так і ў вёсках, закладаліся беларускія гурткі моладзі. Але-ж ня доўга ім удалося цешыцца. У студзені 1921 г. выйшаў прыказ Горадзенскага Старосты Рогалевіча аб тым, што Беларускі Нацыянальны Камітэт Горадзеншчыны зачыняецца. Пачаліся вобыскі і арышты сяброў камітэту, толькі нікога з іх у хаці ня было, бо ўсе скрыліся...

Праз месяц была зачынена Беларуская Грамада Моладзі. Пачалося сярод народу хваляваньне, пайшлі гутаркі, як і што рабіць? Прыдумалі: дэлегацыя паехала ў Сойм да Варшавы, — але-ж нічога не дабілася і вярнулася назад ні з чым...

Пачаўся яшчэ горшы уціск беларусаў. Усе беларускія арганізацыі былі закрыты, беларускія школы ў Горадзеншчыне, якіх было йшчэ каля ста, зачынены (асталіся толькі чатыры), а ў пачатку вучэбнага году 1921-22 на ўсю Горадзеншчыну была ўжо толькі **адна беларуская школа ў м. Горадні**.

У той самы час у Варшаве быў Беларускі Камітэт, старшынёю якога быў п. Дубейкоўскі. Вось пан Дубейкоўскі адкрыў аддзел свайго Камітэту ў Горадні ў тым самым будынку, дзе зьмяшчаўся Горадзенскі Нацыянальны Камітэт.

Па прыказу п. Старосты пячаць з дзьвераў была зьнята і будынак пераданы новай арганізацыі.

Калі даведаўся народ, што гэта ня той Камітэт, які быў выбраны народам, а нейкі з Варшавы, дык перастаў зусім хадзіць, і камітэт сам па сабе зьліквідаваўся.

У канцы 1920 г. у Горадні быў адкрыты Саюз Беларускіх Каапэратываў. У саюз уваходзілі два каапэратывы з Горадні і 18 з павету. У прэзыдыум Саюзу ўваходзілі: старш. Баран, сябры: Юрэчка, Якавюк і Атаназэвіч.

Саюз меў вялікі крэтыт на тавары, якія ад яго і атрымовывалі ўсе каапэратывы.

Усе беларускія працаўнікі заняліся чыста гандлёвай справай, але-ж, як кажуць, і тут ім не пашанцавала. У красавіку 1921 г. па загаду Горадзенскага Старосты Рогалевіча **ўсе 20 каапэратываў былі зачынены.**

Дэлегацыя паехала ў Варшаву — ў Сойм, у міністэрства, але-ж нічога зрабіць не магла, бо дэлегацыі адказалі, што нічога ня ведаюць і гэта справа старосты, у якога пастараюцца ўсё высьветліць, дый да сягоньняшняга дня высьвятляюць...

Пасьля закрыцьця Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Горадні, была адкрыта Прытулковая Рада, якая прыняла на сябе апеку над прытулкам. На чале гэтай Прытулковай Рады быў Тамашчык, сябры: Кулікоўскі, Курбскі і інш. Аднак, Прытулковая Рада неяк пачала распадацца, і астаўся ў ёй адзін Тамашчык.

У лютым 1922 г. прыехаў п. Дубейкоўскі з Варшавы, сабраў усіх працаўнікоў і запрапанаваў адчыніць у Горадні аддзел Беларускага Таварыства дапамогі ахвярам вайны, зацьверджанага міністэрствам, які і абыйме таксама апеку над беларускім прытулкам.

Прапазыцыя гэтая была прынята. Быў выбраны прэзыдыум аддзелу Т-ва, у які ўвайшлі: Баран, Лапыр, Якімовіч, Кулікоўскі і Шуляк. Праз некалькі дзён узнавіліся вобыскі і арышты. Каля 40 чалавек з Горадні былі арыштаваны, і праца філянтрапійнае ўстановы была спынена. Праз тры тыдні беларускія працаўнікі былі звольнены з вастрогу ў Беластоку, вярнуліся ў Горадню і ізноў заняліся філянтропіяй. Рабілі спэктаклі, збор кветкі на карысьць прытулку.

У восені 1922 г. загаварылі аб выбарах у Сойм

Парашылі йсьці, каб у Сойме можна было адкрыта ўсім заявіць аб жаданьнях беларускага народу і бараніць яго ад усякіх крыўд, бо біцьцё і зьдзекі над народам усё павялічаліся, паліцыя ўсяляк уціскала беларусаў, а адначасна не магла абараніць іх ад усё ўзрастаўшага бандытызму.

Пайшлі ў Сойм. Выбралі дэпутатаў ад Горадзенскага і Бельскага вокругаў: Барана і Якавюка. Але-ж пад час выбараў не абыйшлося без таго, каб горадзенская ўлада не рабіла візытаў беларускім дзеячам. Вобыскі былі ў памешканьні Горадзенскага Беларускага Выбарнага Камітэту, у Барана, Якімовіча, Якавюка, Федарука, Кулікоўскага, Лілеева, Трыпузы, у Беларускім Прытулку і інш. Выбраныя паслы Баран і Якавюк паехалі ў Сойм, каб бараніць правы беларускага народу. Дзеля таго, што п. Баран быў старшынёю Т-ва і апякуном над прытулкам, дык часова заступаў яго Якімовіч, як віцэ-старшыня.

У лютым 1923 г. быў адчынены Сэкрэтарыят Беларускага Пасольскага Клюбу ў Горадні. Кіраўніком сэкрэтарыяту быў Якімовіч. У сувязі з гэтым Якімовіч адмовіўся ад апекі над прытулкам. Тады выбраны былі ў прэзідыум Т-ва старш. Канцэвіч, Балдоўскі, Адамовіч, Мінючыц і Кулакоўскі.

Выбралі паслоў, але-ж жыцьцё стала гарэй. Вось 19 сакавіка 1923 г. у Горадні і ў павеце пачаліся вобыскі і арышты. Арыштавалі 48 чалавек. Праз тры нядзелі, на першы дзень праваслаўнага Вялікадня, былі ўсе яны звольнены. Але хутка ізноў арыштавалі Якімовіча, які прасядзеў 13 месяцаў і 4 дні і 28 мая 1924 г. выйшаў з вастрогу, апраўданы судом.

У маі 1923 г. быў суд над беларусамі ў Беластоку. На лаве падсудзімых былі паслы Баран і Якавюк. Так чы іначэй Баран быў засуджаны, а Якавюк апраўданы.

Апраўданы на Беластоцкім працэсе Якавюк быў засуджаны апэляцыйным судом у Варшаве. Якавюк выехаў заграніцу; Баран жа, якога Сойм ня выдаў суду, быў арыштаваны і пасаджаны ў вастрог, дзе і цяпер знаходзіцца.

У чэрвені 1923 г. так званыя „беларускія актывісты“ забралі ў свае рукі беларускі прытулак. Т-ва беларускае ў сувязі з арыштамі і перасьледаваньнямі само сабой зьліквідавалася, і цяперака ніводнай беларускай арганізацыі ў Горадні няма!

Але ўся ранейшая работа і ўсе зьдзекі над беларусамі не прайшлі бяз сьледу. І беларускі рух у масах Горадзеншчыны ня толькі не аслабеў, але-ж, наадварот, нязвычайна ўзрос. Нацыянальная сьвядомасьць вельмі разьвілася, і ўвесь беларускі народ Горадзеншчыны перакана765, што пры супольнай працы ён здабудзе свае правы.

**Ніна.**

## Весткі з вёскі.

### Арышты вучняў.

21. VIII быў заарыштаваны Гарадзейскім пастарункам вучань Нясьвіжскай расейскай гімназіі, Алесь Лабан, а 22. VIII адбыўся сьцісьлы вобыск у памяшканьні Міхася Маскаліка, ня гледзячы на тое, што яго ня было нават і дома, а быў у Стоўпцах на рабоце; там-жа яго і заарыштавалі разам з Алесем Саракавікам. Усе гэныя вучні сядзяць цяпер у Нясьвіжу. Прычына арышту невядомая, але быццам іх вінавацяць у нейкай арганізацыі антыдзяржаўнай. Усе гэтыя хлопцы жывуць у вёсцы Горнай Гарадзеі, Гарадзейскай гміны.

### „Крэсавыя кветкі“.

Пад гэткім загалоўкам „Robotnik“ расказывае аб тым, як у м. Ракаве паліцыя „крадзе чужую канюшыну, а за скаргу катуе людзей“.

Гаспадар двара паблізу ракаўскай каманды паліцыі, жадаючы злавіць таго шкодніка, што яму што-ноч рабіў шкоду на яго канюшыне, знайшоў раніцай на сваей пожні... двух „абаронцаў сьвяшчэннай панскай уласнасьці“ на „Крэсах“—двух паліцыянтаў гранічнай кампаніі з іх двума коньмі. Калі ён са скаргаю на іх прыйшоў да канцыляры „кампаніі“, дык усей гэтай „кампаніяй“ быў гэтак пакалечаны, што павінен цяпер, паводле доктарскага сьвядоцтва, 2—3 тыдні ляжаць і лячыцца...

Каб дакументальна сцьвярдзіць гэты „выпадак“—„прамяняваньня польскай культуры на крэсах“, падаем даслоўна сьвядоцтва доктара-**паляка**, п. Фрынкевіча, выданае пакрыўджанаму.

„Жыхар м. Ракава, ул. Заслаўская 17, Францішак Боздыньскі, 53 гадоў, быў мною агледжаны 17 жніўня г. г., прычым сцьверджана: сільная пухліна, боль, крывавыя падцёкі ў правай палове грудзей, прычым трэцяе рабро правага боку сьпераду зламана, вельмі баліць і затрудняе дыханьне. Плечы таксама апухшы, але менш, хаця таксама баляць.

„Пацыент ня можа рухацца, бо—гэтак моцна аслаблены, што найменшы рух выклікае шалёны боль. Як кажа агляданы, гэтыя пашкоджаньні — рэзультат атрыманых учора ўдараў цьвёрдым арудзьдзем у грудзі, што зусім праўдападобна і згаджаецца з агульным станам пацыента. Пабіцьці павінны быць залічаны да катэгорыі **цяжкіх** і змусяць пакрыўджанага да 2—3 тыднёвай курацыі—з ляжаньнем у ложку і немагчымасьцяй працаваць“...

Пэўна і дохтар Фрынкевіч — „падкуплены бальшавікамі“, каб „псаваць апінію аб польскай толеранцыі за граніцай“?!...

### Канфіскацыя.

Грам. Грыгор, праяжджаючы па дарозе з Вільні да Гарадзеі, спаткаў нябывалае здарэньне. Грам. Грыгор вёз з сабою хлеб, які быў укручаны ў газэту „Сын Беларуса“. Паміж Лідаю і Нёманам увайшоў паліцыянт і пачаў правяраць дакуманты. Гэтак ён падыйшоў да гр. Г. і запытаўся дакумантаў. Калі, убачыўшы дакуманты, ён зьвярнуў увагу на газэту, дык запытаўся: „co to jest?!“ калі гр. Г. адказаў, што гэта хлеб, тагды ён пытае „a w czem ten chleb?“ Грам. Г. зазначыў, што гэны хлеб у газэце беларускай; тагды гэты паліцыянт, узяўшы газэту і што было ў газэце, пачаў крычаць:, ty, cholera, komunista, rozwozisz literaturę bolszewicką!“ і пагразіў, што прыдзе камандант і арыштуе. Пасьля завярнуўся і пайшоў, сканфіскаваўшы газэту з хлебам. Таквеля і бачыў яго.

**Грыгор.**

## Наша пошта.

1) **М. Дубоўскаму**. 2 зл. атрымалі. 2) **М. Букато**. 2 зл. атрымалі. 3) **Л. Шутовічу**. 2 зл. атрымалі. 4) **Б. Літвінчаку**. 4 зл. атрымалі. 5) **Яну Попцы**. 2 зл. атрымалі. 6) **М. Турку**. 2 зл. атрымалі газэту высылаем. 7) **Сьцяпан Мірачыцкі**. Паводлуг Вашай просьбы газэту будзем высылаць на імя Піліпа Тананкі. 8) **Лаўрэну Парфеновічу**. 5 зл. атрымалі.